# БЕЛАРУСКІ ШЛЯХ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Серпухоуская вул. д. № 12

Рэдакцыя адчынена ад 1 да 2 гадз. пасьля поудня.
Адміністрацыя—зрана ад 10 да 2 гадз.
У вечары ад 5 да 7 гадз.

Рэдакцыя пакідае за сабой права папрауляць перасыланые рукапісы і карэспондэнцыі.

Цана асобн. нум. 15 К.

Надпіска: з дастаукай да дому у Мінску на 1 месяц 3 рублі.

Цана абвестак:
за верш пэтыту на 1-й стран. 1 рус
на апошняй—50 кап.

Штодзенная грамадзка-палітычная газэта.

№ 26. Менск. Аўторак 23 красавіка 1918 г. Год I




## „Беларускі конгрэс“.*)

*(матэрыялы і дакумэнты).*

Аднэй з арганізацыяу памагаушых Вялікай Радзе склікаць з'езд 5-15 сьнежня быу «Бѣлорусскій областной совѣтъ при всеросійскомъ совѣтѣ крестьянскихъдепутатовъ» у Петраградзе. Арганізацыя гэта злажылася у палавіне лістапада у Пецярбургу, калі большэвікі унеможлівілі дзеяльнасьць «Всеросійскаго крестьянск. совѣта». Члонкамі былі пераважна с.-р. —«формацыі 1917 году»—прэдстаунікі «крестьян-совѣтов» ад беларускіх губэрняу. Напрамак іх быу шчыро москвофільскі, калі б ні сказаць маскоускі. Яны адразу узялі пад падайзрэнне Вялікую Раду, каторай да свайго „нішчасьця“ бадай чы цікавіліся і схацелі адцягнуць палітычны цэнтр бліжэй да усходу. Дзеля таго з сярэдніны гэтай арганізацыі выплыла думка, каб змяніць мейсцо у якім Рада склікала з'езд,—замест Менску назначыць Рогачоу. Магіл. губ.

Каб дабіцца дазволу на з'езд «Областной совѣтъ» увайшоу нават у перагаворы з большэвіцкім урадам са Смольнаго.

Здаецца і нашто болі пэуная у орыентацыі і «лойяльная» да «ураду» арганізацыя але і яна выклікала трывогу сярод большэвікоу.

1 сьнежня з Пецярбургу у Менск паляцела «ваенная» дэпэша (падаем гэты, як і ніжэйшыя дакумэнты, каб лепі перадаць усю пекнасьць у копіях з а утэнтыкау бэз перэкладу):

«**Минск совдеп Ляндэру.**

Здѣсь члены стараго крестьянсовѣта задались цѣлью самоопредѣлить Бѣлоруссію, организовать бѣлорусскіе полки, разогнать Минскихъ большевиковъ объявивъ власть Рады. Крестьянсъѣздѣ мнѣ удалось организовать всѣхъ фронтовиковъ поэтому получился перевѣсъ нашу сторону(.) Нашим стараніем отклонена просьба бѣлоруссовъ получить разрѣшеніе организовать войска(.) Примите и вы всѣ мѣры парализовать созывъ съѣзда Рогачовѣ 5 декабря(.) 5150 Азаровъ».

Вялікай Радзе аднак удалося прыеднаць сабе і «Областной совѣт», каторы згадзіуся у канцы, што мейсцам з'езду павінен быць Менск—сэрцо Беларусі. Большэвіцкія перашкоды усе такі зрабілі, што тэрмін з'езду раздвоіуся: Рада разаслала позвы на 5 сьнежня а «Совѣт» на 15. У канцы была зломлена і гэта перашкода. Пастаноулено было іда 15 вясьці падгатоучую працу, а ад 15 пачаць афіцыяльную праuу з'езду. «Радіограмма» «Областного Совѣта» абвешчала:

*Всѣмъ:* крестьянсимъ совѣтамъ, земскимъ управамъ городовъ Минской, Могилевской, Витебской и Виленской губерній.—Образовавшійся въ Петроградѣ при Всероссійскомъ совѣтѣ крестьянскихъ депутатовъ, Бѣлорусскій областной комитетъ, въ который входятъ всѣ представители крестьянства Бѣлоруссіи на второмъ всероссійскомъ съѣздѣ крестьянъ, представители арміи флота члены Исполнительнаго Комитета, члены учредительнаго собранія отъ Бѣлоруссіи, обсудивъ положеніе Бѣлорусскаго края, призналъ, что Бѣлоруссіи угрожаетъ смертельная опасность раздѣла или подчиненія враждебнымъ государствамъ, потери завоеваній революціи, земли и воли комитетъ призываетъ васъ немедленно избрать своего представителя и послать его въ Минскъ на 15-го декабря с.г. на обще-бѣлорусскій съѣздъ, снабдивъ его мандатомъ, суточными и провизіей на семь дней. Въ порядкѣ дня: образованіе автономной Бѣлоруссіи и краевой власти, какъ единственный выходъ къ спасенію. Срочно нарочнымъ оповѣстите волостныя земства. Отказъ участвовать на обще-бѣлорусскомъ съѣздѣ будетъ сочтенъ какъ преступленіе противъ родины. Областной бѣлорусскій комитетъ Канчеръ, Коротькевичъ, Гольманъ, Колядко. Члены учредительнаго собр. Малыщецкій, Оношко, Шишаевъ № 5201».

Позвы на з'езд разасланыя Вялікай Радай і радзіограммы «Областнікоў» ні асталіся без „одгуку“ з боку большэвіцкіх уладау на мейсцох. «Одгукі“ гэтыя напрауляліся большэвіцкаму «цэнтру» у Менску.

Вось адзін такі,—тэлеграмма з Астрашыцкага Гарадку: ад 25/XI 917 г. „Минскъ Исполнительный Комитетъ совѣта крестьянскихъ депутатовъ при военно-революціонномъ комитетѣ. Бѣлоруская Рада созываетъ съѣздъ пятое декабря (.) Прошу распоряженія. Предсѣдатель Метлицкій». На тэлеграме рубрыка чырвоным алоукам: „В.— спѣшно! Т. Кривошеину“.

Адлі-ж таго: з'езд адбыуся! Ні глядзя на уселакія „меры» і «распараджэння» дэлегаты з'ехаліся, усе орыентацыі зліліся у аднэй беларускай орыентацыі і каб большэвікі былі цярплівейшымі яны-б дачакаліся куды большай ніспадзяванкі, чым памятная рэзалюцыя з'езду ад 17—18 сьнежня.

Але трывога за сваю будучыну пазбавіла іх цярплівасьці. З'езд, які бараніуся барыкадамі ад узброеных салдатау быу разагнаны. Два прэзыдзіумы яго узяты у астрог. З гэтаго поваду два «урады“,—Смольны Петраградскі і „Камэрчэскі»—Менскі абмеnяліся весткамі:

Смольны: «Примите записку!!! Минскъ Народн. Ком. Привѣтъ товарищамъ. Къ намъ пріѣхали лѣвые бѣлоруссы и ходатайствуютъ объ освобожденіи лѣвыхъ съѣздовиковъ Бѣлоруссіи членовъ Бѣлорусскаго Областного Комитета. Одновременно получили мы телеграмму отъ бѣлорусскихъ воиновъ объ освобожденіи арестованныхъ (.) Прошу васъ сообщить о возможоости освобожденія по крайней мѣрѣ лѣвыхъ (,—) ихъ фамиліи могу вамъ сообщить (.) Сталинъ Жду отвѣта“.

«Камэрчэскі» (адказ): «Привѣтъ товарищу Сталину. Отвѣчаю (:) причины ареста вамъ вѣроятно извѣстны; они призна вая общероссійскую власть совѣта народныхъ камиссаровъ категорічески отказались признать совѣтъ народныхъ комиссаровъ западной области (и) фронта какъ во время переговоровъ до съѣзда такъ и на самомъ съѣздѣ. Была вынесена резолюція, что единственной властью въ краѣ считаютъ Бѣлорусскій Совѣтъ (.) На предложеніе присоединиться къ мѣстному Совѣту Народн. Комисс. хотя-бы делегированіемъ своихъ представителей делегаты бѣлоруссы отвѣтили отрицательно (.) О выясненіи всѣхъ условій и разсмотрѣніи дѣла арестованныхъ. какъ лѣвыхъ такъ правыхъ членов съѣзда мы примемъ зависящія отъ насъ мѣры (и) если возможно (къ) освобожденію ихъ (.) О ходѣ дѣлъ мы немедленно будемъ доводить до вашего свѣдѣнія (.) Все будетъ передано совѣту Народ. Комис. западной области и фронта и ваши предложенія будутъ немедленно разсмотрѣны имъ. Все что могу вамъ пока отвѣтить».

«Дзело» было зроблянo. „Меры“ паузяты. «Трыумфатары» паведамляючы аб гэтым публіку пакеплівалі: (Большэвіцкая „Polska Prawda“ № 38, 19.XII (1.I) 1917 г.) „*Беларуская Рэспубліка*“. Учора ноччу скончыуся беларускі з'езд арганізованы беларускімі нацыяналістамі, якія хаваюцца за социялістычныя лезунгі. Дзеля апазіцыйнаго і рэволюцыйнаго становішча занятаго беларускімі селянамі высланцы кн. Радзівілавай і п. Скірмунта ні маглі правясьці рэзалюцыі супраціунай ідэалам Расійскай Рэвалюцыі. Тагды ні ставячы на галасы такога важнаго пытання як нізалежнасьць, гэтыя паны здаволіліся урачыстым абвяшчэннем „Нізалежнай Беларускай Рэспублікі“ ні гледзючы на энэргічныя пратэсты з'езду пасьля чаго абвесьцілі з'езд зачыненым. З узгляду на правакацыйнае становішчо якое паузяу прэзыдыум і заклік скінуць «самазванскую» Раду Народных Камісарау Заходняго округу і фронту, прэдстаунік Народнай Улады папрасіу беларускіх «міністрау» да раней прыгатаванаго для іх... палацу!

Ні абыйшлося і без гумарыстыкі. Паны „міністры“ гуляючы у «перапелачку» стараліся схавацца паміж учасьнікамі З'езду, што змусіло вайсковую каманду іх шукаць і зацягнуло гульню да самай раніцы».

Але вяселасьць „Народных Комиссаров“ узмацняла гнеу беларускаго народу. Дэлегаты паусюдах развозілі пратэст праціу гвалтаунікау. Гэта змусіла «Народных Камиссаров» выступіць з паясьненнем. Праудзівасьць „паясьнення“ аднае вартасьці с праудзівасьцю заметкі у «Prawdzie». Стыль і аргумэнты робяць яго ні вартым для друку, прынамсі цяпер.

Вось жменька дакумэнтальных даных аб той цяжкай дарозе па якой Беларусь ішла к аб'еднанню. Хай пазнаюць іх сучаснікі і проймуцца болям за Бацькаушчыну, хай ведаюць патомкі - ні судзяць што па ціху ішла справа.

**Н—і.**

*) Гл. № 25

## Скрыпты шовіністы.

«Расійская фэдэрацыя» дзякаваць Богу наладжываецца.

То-ест ні ў тым наладжываецца, што заводзіцца парадак, безпэчнасьць мення і жыцця прыватных асобаў павялічываецца, «рэспублікі» даходзяць да чагось аднаго—апрача ніпарадку,—фэдэральныя законы выпрабляюцца,—да гэтаго іщчэ ні прышло.

І бадай чы прыйдзе.

«Фэдэрацыя» наладжываецца з другога боку. Інтэнсыўна ідзець падзел на асобныя дробныя арганізмы. «Комуны», рэспублікі і нават «фэдэрацыі» растуць як у лесе грыбы пасьля дажджу.

Часам бывая, што такі «арганізм» выскачыць саўсім ніспадзевана, без усякай тэорыі, як скула на шыі, часам яго вынік папераджаецца праэктам. До, чы пасьля падзелу, а тэорыя, праэкт, адняк канечне бываюць.

Бо у слаўным маскоўскім царстве без гэтаго ні можна. Там што ні таварыш, то і пражэктар, што ні кароўніца, то і міністр прасьветы альбо апекі.

Можна спадзевацца, што у хуткім часе мы будзем ашчасьліўлены «гражданствам» у такім новым арганізме. У Пецербурска-Петраградскай коммуне радзіуся плян «Сѣверо-западной рэспублікі». Усе што на захад ад Волгі і Камы, мае зрабіцца коммуністычным. Нам ні ведамы пакуль што абшар, жывы і мёртвы інвэнтар новай Аркадзіі, алеж трэба спадзявацца і на сваё шчасьцце. Тым болей, што таварыш Троцкі даўно усё бачыў наперад і здолаў угаварыць немцаў на мірнай конфэрэнцыі, што тут спаконвечная праўдзівая Вялікаросія.—Каму-ж лепі ведаць аб гэтым як ні ему каторы родам з Слуцкіх Бронштэйнаў!

З другога боку, у Смален-

